„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

N– 4(100) БЕЛАСТОК, 26 СТУДЗЕНЯ 1958 г. ГОД III

# У Беластоку паклікана Камітэт пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму

20 студзеня г. г. у Беластоку адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму.

На пасяджэнне прыйшлі прадстаўнікі навукі, культуры ваяводскіх улад, палітычных арганізацыяў і грамадскія дзеячы.

Пасяджэнне адкрыў старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку — Станіслаў Юхніцкі.

— Настаў час — гаварыў м. інш. таварыш Юхніцкі, — каб грамадскасць Беласточчыны ўвекавечніла памяць нашага выдатнага земляка — героя беларускага і польскага народаў, які ўзняў барацьбу супраць царызма «за вашу і нашу вольнасць».

З цікавым дакладам на тэму дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзэф Кавальскі. Пасля даклада ўзніклі спрэчкі — як найлепш увекавечніць памяць Кастуся Каліноўскага.

Перадусім, пастаноўлена назваць імям К. Каліноўскага новапабудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе ён нарадзіўся і ўстанавіць там мемарыяльную дошку. Пастаноўлена звярнуцца да Прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Беластоку, каб адну з вуліц у горадзе назваць ім. Кастуся Каліноўскага.

Вырашана таксама распачаць дзейнасць дзеля атрымання сродкаў на пабудову помніка Кастусю Каліноўскаму ў постаці Дома народнай творчасці, які-б быў названы імям Кастуся Каліноўскага, дзе-б гуртавалася праца польскіх і беларускіх самадзейных калектываў і ладзіліся-б іншыя культурныя мерапрыемствы.

У заключэнні пасяджэння выбрана 30-асабовы Камітэт, які ўзначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку, Станіслаў Юхніцкі.

---

У сувязі з выхадам 100-ага нумара „Нівы"

## Юбілейныя пажаданні



### АД СТАРШЫНІ ПА СПРАВАХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ ПРЫ ЦК ПЗПР

*Пасля Кастрычніка шмат чаго зроблена і выдатна пашырана магчымасці ў галіне развіцця беларускай культуры, мовы і асветы.*

*Гэта добры фундамент для сардэчнага братэрскага сужыцця беларусаў і палякаў — сыноў адной краіны, якія супольна будуюць сваю соцыялістычную Айчыну — Народную Польшчу.*

*Жадаю «Ніве», каб пладатворна служыла гэтай ідэі нашага братэрства.*

*Варшава 17.I.1958*

*ЕЖЫ ШТАХЭЛЬСКІ*

ТАВАРЫШУ
ГЕОРГІЮ ВАЛКАВЫЦКАМУ
ГАЛОЎНАМУ РЭДАКТАРУ
«НІВЫ»

*У сувязі з выйсцем у свет 100-га юбілейнага нумара «Нівы» перасылаю Вам асабіста, усяму Калектыву Рэдакцыі і чытачам Вашага часопіса самыя сардэчныя пажаданні плённай працы на ніве распаўсюджвання дружбы паміж польскім і беларускім народамі.*

*Жадаем, каб выдаваны Вамі часопіс яшчэ лепш знаёміў нашае грамадства з жыццём і працай беларусаў, пражываючых у Польшчы, прычыняючыся да ўмацавання сапраўднай і глыбокай дружбы.*

*ТАДЭУШ КСЁНЖЭК*

Сакратар Галоўнага Праўлення Таварыства польска-совецкай дружбы



### АД СТАРШЫНІ КАМІСІІ ПА СПРАВАХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ КВ ПЗПР У БЕЛАСТОКУ

*З выпадку сотага нумара «Нівы», ад імя Камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры КВ ПЗПР і ад сябе асабіста, ад усяго сэрца жадаю рэдакцыі далейшага развіцця і творчых дасягненняў у развіцці багатай беларускай культуры.*

*Усім супрацоўнікам, чытачам і прыхільнікам «Нівы» жадаю самых лепшых поспехаў у працы і шмат шчасця ў асабістым жыцці.*

*ЯН СЕНКЕВІЧ*

*Беласток 20.I.1958.*

### *АД МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ*

*Карыстаючыся выпадкам юбілею «Нівы», хочацца шчыра пажадаць рэдакцыі і Беларускаму таварыству далейшых поспехаў у працы за абарону правоў беларускага насельніцтва да роднай культуры і ў паглыбленні братэрскага супрацоўніцтва і дружбы паміж беларускім і польскім народамі.*

*Асабіста жадаю, каб «Ніва» і надалей жыва цікавілася справамі беларускай асветы ў Польшчы, і ў далейшым цесна супрацоўнічала з настаўнікамі і асветнымі ўладамі дзеля паляпшэння і развівання беларускай асветы.*

*СТАНІСЛАЎ МАЎЭРСБЭРГ*

Начальнік Аддзела школ з непольскай мовай навучання ў Міністэрстве асветы.

*Варшава. 18.I.1958 г.*

## Радасны юбілей

*Здаецца, яшчэ зусім нядаўна ўсхваляваныя да крайнасці, аддавалі мы чытачам першы нумар «Нівы» і прасілі іх падтрымкі.*

*Хвалявала нас перадусім пытанне: як чытач успрыме газету, ці палюбіць яе, ці назаве сваёй? Прасілі мы падтрымкі, бо ведалі, што калі яе не будзе, нічога самі не зробім. І ў сэрцы пацічотна гадавалі надзею: палюбяць, падтрымаюць...*

*Не памыліліся. І цяпер, калі святкуем свой радасны юбілей, ад усяго сэрца складаем падзяку чытачам за тую любоў і падтрымку, якая была нашым неадлучным спадарожнікам ад першага да сотага нумара. Верым, што і далей яна будзе нашым самым блізкім другам.*

*СТО НУМАРАЎ! Многа гэта ці мала?*

*Многа, бо ішлі мы нявопытныя праз цяжкі адрэзак дарогі, часта ішлі вобмацкам, спатыкаліся, змагаліся са шматлікімі перашкодамі, але з напрамку не збіліся. Мала, бо яшчэ перад намі толькі непрацярэбленай дарогі.*

*Калі арганізавалася рэдакцыя, шмат было такіх, якія казалі: — «Нічога з гэтага не выйдзе, не выпусцяць яны ніводнага нумара». Калі выпусцілі першы нумар, тыя самыя «прарочылі»: — «Найвышэй вытрымаюць тры нумары, духу не хопіць». Потым былі другія тэрміны нашай капітуляцыі, а мы тымчасам пер'ем абрасталі і не толькі не капітулявалі, але значна ўмацавалі свае пазіцыі. Цяпер з гэтых «прарокаў» мы можам толькі пасмяяцца.*

*Амаль 8.000 лістаў, якія атрымалі мы ад чытачоў на працягу гэтых двух гадоў, умацавалі ў нас веру ў слушнасць нашай працы. Гэтыя лісты з'яўляюцца доказам, што «Ніва» у жыцці беларуса ў Польшчы, як хлеб — рэч неабходная.*

*Хоць чытачы празмерна нас хваляць, не зазнаемся, бо ведаем колькі яшчэ маем недахопаў і пахвалы чытачоў, тлумачым вялікай прагнасцю роднага слова, замілаваннем да родных абычаяў і культуры. І гэта нас радуе.*

*Але не толькі прагнасць роднага слова, роднай культуры з'еднала нам чытачоў. Сотні ўладжаных намі спраў, з якімі звяртаюцца штодзённа да нас чытачы, наблізілі чытачоў да нас і нас да чытачоў, да іх жыцця. І гэтым мы ганарымся.*

*Усё больш гуртуецца вакол «Нівы» беларуская інтэлігенцыя, з кожным нумарам пашыраецца аўтарскі актыў, выяўляюцца новыя таленты. І гэта кажа нам глядзець у будучыню аптымістычна.*

*Аптымізмам напаўняюцца і нашы сэрцы, калі бачым вялікія клопаты партыі і народнай улады ва ўзніманні культурнай цаліны сярод нацыянальных меншасцяў, калі бачым, што і ўся прагрэсіўная грамадскасць нашай краіны не абыякава ставіцца да спраў нацыянальных меншасцяў, і аказвае нам падтрымку.*

*Усё гэта забавязвае нас пакласці яшчэ больш намаганняў для агульнай справы перабудовы жыцця, суадносін між людзьмі, каб нашае жыццё было лепшае, справядлівейшае, а адносіны між адным чалавекам і другім апіраліся на ўзаемнай пашане, не гледзячы на тое, хто ён — беларус, паляк, украінец, ці хто іншы.*

*Усё гэта забавязвае нас жыць турботамі і думкамі народа, і мець адну мэту — служэнне яму. Іншых мэт у нас няма і быць не можа.*

*Уступаючы ў новую сотню, ведаем, што і гэты адрэзак нашай дарогі не будзе ўсланы ружамі, але верым, што будзе ён куды лягчэйшы ад пройдзенага; спадзяемся, што непараўнальна ўзрасце лік нашых чытачоў і супрацоўнікаў, а таксама пашырыцца абсяг нашай дзейнасці; запэўняем, што дадожым максімум намаганняў, каб «Ніва» была цікавейшай і незаступнай у штодзённым жыцці кожнага беларуса у Польшчы.*



*Тут родзіцца «Ніва»*

*фота — І. Р.*

 

# Весткі з выбарчай кампаніі

Ужо толькі 7 дзён засталося да выбараў у нарадовыя рады.

На Беласточчыне, як і ва ўсёй краіне ў далейшым адбываюцца сустрэчы кандыдатаў у рады нарадовыя, са сваімі выбаршчыкамі. Апошнім часам, асабліва многа такіх сустрэч адбылося на Бельшчыне.

Першая сустрэча кандыдатаў з выбаршчыкамі ў Бельскім павеце, адбылася 16 студзеня ў Тапчэве. На ёй прысутнічалі кандыдаты ў Павятовую раду нарадовую: Міхась Тумаш — кіраўнік фінансавага аддзела ПРН у Бельску, Язэп Высоцкі — селянін з вёскі Маркава і Станіслаў Гурэцкі — дарожны майстар з вёскі Свярыды.

На сустрэчы, якая працягвалася да позняга вечара, жыхары Тапчэва высунулі шмат цікавых прапаноў, адносна далейшай працы ў новай радзе.

17 студзеня падобныя сустрэчы адбыліся ў Райску, Зубаве і Алендах.

У Райску, дзе прысутнічалі кандыдаты ў Павятовую раду нарадовую: сакратар прэзідыума ПРН у Бельску — Галоньчук і старшыня ГРН у Гацьках — Ракоўскі, сустрэча была вельмі цікавай. Выступаючы з прамовай на тэму дагэтуляшняй і будучай працы ПРН — Галоньчук, між іншым, паведаміў жыхароў Райска, што ў бліжэйшыя гады ПРН намерана арганізаваць у Райску, у будынках былога сельгаскааператыва (якія цяпер стаяць зусім не выкарыстаныя) прадпрыемства вырабу прадуктаў садавіны і агародніны. Дасць гэта магчымасць шырокага збыту гэтай сыравіны акалічнымі вёскамі, багатымі ў сады і агароды, а многія атрымаюць працу.

Жыхары Райска з вялікім задавальненнем прынялі гэтую прапанову.

18 студзеня сустрэчы кандыдатаў у Павятовую раду нарадовую з выбаршчыкамі адбыліся ў Рыбалах, Цялушках, Плёсках, Хойнаве, Рудцы, Фальках, Страблі і Малінаве.

Усе яны адзначаліся вялікім зацікаўленнем сярод выбаршчыкаў. Насельніцтва Бельшчыны разумее, што добрае жыццё кожнага жыхара павета залежыць ад будучай працы рады нарадовай, ад людзей, якія ў ёй знойдуцца, таму і вялікае зацікаўленне сустрэчамі з кандыдатамі.

Такія сустрэчы на Бельшчыне будуць адбывацца да канца студзеня.

* * *

Шмат сустрэч кандыдатаў з выбаршчыкамі ўжо адбылося на Сакольшчыне. Некалькі дзён таму, між іншымі, адбылася сустрэча ў вёсцы Кавалі ля Кузніцы. На ёй прысутнічалі: кандыдат у Ваяводскую раду нарадовую, камандзір атрада ВОП — Казімір Фарына; кандыдат у Павятовую раду нарадовую, капітан — Мыцка і сакратар Прэзідыума ПРН у Саколцы — Гаўра.

Падчас сустрэчы сяляне выступалі з цікавымі прапановамі адносна будучай працы нарадовай рады. Аднак былі і такія, што ў сваіх выступленнях пачалі наракаць на нібы зусім малую дапамогу дзяржавы сялянам.

Выступаючы з прамовай, сакратар Прэзідыума ПРН — Гаўра выказаў, што такія нараканні зусім беспадстаўныя. Між іншым паведаміў ён, што толькі адзін электрычны турбавузел, якім карыстаецца насельніцтва ўсёй Беласточчыны, каштуе дзяржаву 15 мільярдаў злоты. Тымчасам, сяляне толькі аднаго Сакольскага павета неаддалі дзяржаве падаткаў на суму 25 мільёнаў зл.

Сяляне Сакольшчыны толькі на скасаванні абавязковых паставак малака зыскалі 11 мільёнаў зл., льготы атрыманыя сялянамі ў зямельным падатку выносяць таксама 11 мільёнаў зл. На складчыны ПЗУ мінулым годам у Сакольскім павеце ўплочана толькі 3 мільёны злоты, а адшкадаванні выплачаныя праз ПЗУ сялянам гэтага павета ў гэтым-жа годзе складаюць лік 5 мільёнаў злоты.

Лічбы гэтыя найлепш сведчаць аб тым, што прэтэнзіі некаторых сялян да дзяржавы (што нібы яна зусім мала дапамагае вёсцы) зусім беспадстаўныя і нічым неабгрунтаваныя. І гэта, у канцы сустрэчы, выбаршчыкі з Кавалёў вельмі добра зразумелі. Таму ў заключэнні яны выказалі поўны давер сваім кандыдатам.

* * *

У павеце Дуброўскім сустрэчы кандыдатаў з выбаршчыкамі, у асноўным, адбываліся да 26 студзеня. Цікавая сустрэча з кандыдатам у Ваяводскую раду нарадовую — Марыяй Ждановіч і паслом у Сейм — Язвінскім адбылася ў вёсцы Неросьна.

* * *

Шмат сустрэч ужо адбылося ў Семятыцкім павеце. Адной з цікавейшых была свустрэча ў Семятычах, дзе прысутнічала, кандыдат у Ваяводскую раду нарадовую — З. Матэйчык.

* * *

Аднак найцікавейшыя і найбольш атракцыйныя сустрэчы адбываюцца ў Гайнаўскім павеце. Да такіх можна залічыць сустрэчу з рабочымі Прадпрыемства сухой дыстыляцыі дрэва ў Гайнаўцы, на якой прысутнічалі між іншымі, кандыдаты ў Ваяводскую раду нарадовую: Пятро Любенецкі і Лявон Паўлоўскі, кандыдаты ў Павятовую раду нарадовую: Пятро Тэафілюк, Марыя Яконюк, Міхась Роля і Тадэуш Прыбыш.

На гэтай сустрэчы між іншымі прысутнічала і выступала з цікавай прамовай член ЦК ПЗПР тав. Э. Арлоўская.

Ваяводскі Камітэт Фронта адзінства народу ў Беластоку, апошнім часам падрыхтаваў шмат прапагандовых, выбарчых матэрыялаў. Паветы Беластоцкага ваяводства атрымалі аднадзённыя газеткі і брашуры ў якіх пішацца аб дасягненнях на працягу трохгадовай працы нарадовых радаў, аб далейшых перспектывах паветаў і кандыдатах у рады нарадовыя.

Друкуецца таксама брашуру пад загалоўкам «Беласточчына пазаўчора, учора і сёння». Апрача гэтага незадоўга выйдуць з друку прапагандовыя плакаты, якія папулярызуюць кандыдатаў у рады нарадовыя.

(вб)

## Квітней наша ніва

*Супрацоўнікам і чытачам «Нівы»*

У раллю, якую ўзварушыў араты
І сваім горкім потам арасіў,
Рукой сейбіта кідаем зярняты,
Чакаем, каб палетак наш расцвіў

Нас смуціць, што зярнятак яшчэ многа
Замест ў зямлю зараную, ўпадзе
На цаліну, мяжу, ці край дарогі
І ў пустазеллі дзікім прападзе.

Хай нас ад працы гэта не адстрашыць.
Не мала трэба нам яшчэ гадоў,
Каб першыя ўсходы нівы нашай
Шумелі гукам поўных каласоў.

Сейбіт, ты зможаш усяго дабіцца!
Зярняты поўнай жменяй рассявай,
А ніва нам, павер, закаласіцца
І прынясе багаты ураджай.

ВІКТАР ШВЕД

З жыцця БГ-КТ

## За цяснейшую сувязь з беларускай вёскай

13 студзеня г. г. адбылося пасяджэнне Праўлення варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства з удзелам шырокага актыву. На гэтым пасяджэнні, між іншым, абмяркоўвалася справу слабой сувязі варшаўскага Аддзела з беларускімі вёскамі Беласточчыны. Гаварылася шырока аб тым, што беларусы, пражываючыя ў Варшаве з'яўляюцца адарванымі ад беларускага асяроддзя. У сталіцы нашай краіны згрупавана шмат беларускай інтэлігенцыі так старэйшага, як і малодшага пакалення. Гэтая інтэлігенцыя можа і павінна адыграць вялікую ролю ў развіцці культурнага і эканамічнага жыцця сярод беларускага насельніцтва ў Польшчы.

Падчас гарачых спрэчак, звярталася ўвагу на тое, што асабліва студэнты, якія вучацца на вышэйшых навучальных установах у Варшаве і часта выязджаюць да сваіх бацькоў — могуць многа дапамагчы беларускай вёсцы. Маюцца ўжо і пэўныя вопыты і дасягненні. Група студэнтаў з Варшавы прыняла ўдзел у грамадскіх сходах у некаторых вёсках Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Расказваючы аб сваіх уражаннях вынесеных з гэтых сходаў, на якія прыехалі з жывым беларускім мастацкім словам і беларускай песняй, студэнты звярнулі ўвагу на тое, што ёсць яшчэ многа беларускіх вёсак на Беласточчыне, да якіх ніколі ніхто не заглянуў з беларускай паэзіяй і песняй.

Варшаўскія студэнты вельмі ўдзячны сялянам за надзвычай сардэчны прыём. Абяцаюць яны заглядаць часцей у беластоцкія вёскі, пераканаліся, што беларускае слова, з якім яны прыйшлі да гэтых сялян трапляе проста ў іх сэрцы.

На пасяджэнні пастаноўлена, што мастацкія групы, а таксама Варшаўскі беларускі хор будуць часта выязджаць у беларускія вёскі. Пастаноўлена таксама прыйсці з дапамогай беларускім школам. Варшаўскі аддзел ахвотна перадасць кніжкі з беларускай мастацкай літаратуры тым вясковым школам, якія гэтых кніжак найбольш патрабуюць.

Толькі цесная сувязь беларускай гарадской інтэлігенцыі, што расцярушаная па ўсёй нашай краіне — з беларускім асяроддзем, якім з'яўляюцца сотні вёсак Беласточчыны, можа запэўніць паступовы рост нашага культурнага і эканамічнага жыцця.

ВІКТАР ШВЕД

Юбілейныя пажаданні

## Ад Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства

Пачынаючы сваю дзейнасць, як таварыства так і «Ніва», мелі шмат перашкод. Аднак перамагаючы іх можам паказаць паважныя поспехі. За двухгадовы перыяд супольнай працы саргaнізавана 30 мастацкіх калектываў, якія далі звыш трохсот выступленняў.

Аб выступленнях нашых калектываў было замешчана шмат артыкулаў, інфармацый і фотаздымак у «Ніве». Тут трэба адзначыць, што «Ніва» і дзіцячы часопіс «Зорка» шмат дапамаглі пры арганізаванні пасобных мастацкіх калектываў і шырэнні беларускай культуры, асабліва мастацкага слова. Аб зацікаўленні «Нівай» і «Зоркай» могуць сведчыць шматлікія пісьмы ад чытачоў. «Ніва» у многіх справах дапамагае нашаму насельніцтву. І таму здабывае сабе ўсё большую і большую папулярнасць.

«Зорка» з'яўляецца ў сваю чаргу вялікім дапаможнікам у нашых школах пры вывучэнні роднай мовы. Тым больш, што матэрыялы змешчаныя ў гэтым часопісе выкарыстоўваюцца замест дзіцячай літаратуры, якой усё нехапае. Шмат увагі прысвячалася на старонках «Нівы» справам асветы. Амаль у кожным нумары знойдзеце артыкулы аб жыцці школы, яе дасягненнях і клопатах. Змяшчалася нямала артыкулаў аб жыцці і дасягненнях брацкіх народаў СССР. Знойдзеце ў гэтым часопісе матэрыялы на розныя тэмы, якімі цікавіцца грамадскасць.

І калі сёння возьмем у рукі сшытак «Нівы», ды пачнем гортаць яе старонкі, проста не верыцца, што гэта мог зрабіць малады калектыў нашых рэдактараў. Гэты калектыў, дзякуючы працы, унёс вялікі ўдзел у шырэнні беларускай культуры, літаратуры і роднага слова.

Дарагія сябры — працаўнікі рэдакцыі! У сувязі з выхадам сотага нумара «Нівы» — Галоўнае Праўленне БГ-КТ складае вам самую шчырую падзяку за ахвярны ўклад працы і жадае яшчэ больш плённых поспехаў у дзейнасці на роднай ніве!

За Галоўнае Праўленне
старшыня

А. ДАВІДЗЮК

Беласток, 18.1.1958 г.

### АД ВАРШАУСКАГА АДДЗЕЛА БГ-КТ

*Соты нумар «Нівы» — вялікае свята ўсяго беларускага насельніцтва ў Польшчы. У сувязі з гэтым радасным юбілеям Праўленне варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства пасылае рэдакцыйнаму калектыву гарачыя прывітанні і пажаданні яшчэ большых дасягненняў на НІВЕ роднай, беларускай культуры.*

*З сяброўскім прывітаннем*

*За Праўленне:*

*Старшыня*
*Ю. ТУРОНАК*

*Варшава 17.I.1958*

### АД НАВУКОВЫХ СУПРАЦОУНІКАУ І СТУДЭНТАУ КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАУСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

*У дзень выхаду з друку 100-га нумара «Нівы» навуковыя супрацоўнікі Кафедры і студэнты беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта жадаюць Рэдакцыйнаму Калектыву найлепшых поспехаў у выданні газеты і распаўсюджванні роднай культуры.*

*Варшава 18.I.1958*

### АД САЮЗА ПОЛЬСКІХ ЖУРНАЛІСТАУ

*Сто нумараў «Нівы» — гэта амаль двухгадовы перыяд радасцей і смуткаў, што спадарожнічаюць Вашай рэдакцыйнай працы — працы, за якою ўсе беластоцкія журналісты сочаць з узрастаючай сімпатыяй.*

*З выпадку юбілею, прыміце сардэчныя пажаданні 1.000 нумараў і 20-гадовых ітогаў. Памагайце, як дагэтуль, развіваць беларускую культуру і ўмацоўваць дружбу паміж пражываючымі ў нас беларусамі і палякамі ў імя супольных ідэалаў.*

За Праўленне Аддзела СДП
*УЛАДЗІМІР ЛАЗІНСКІ*

*Беласток. 21 студзеня 1958 г.*



 

З настаўніцкай нівы

# Інтэрв'ю з Чэславам Лойкам загадчыкам Аддзела асветы Ваяводскай Рады нарадовай у Беластоку

Пасля першага квартала новага навучальнага года звярнуліся мы да загадчыка Аддзела асветы Ваяводскай Рады нарадовай у Беластоку — Чэслава Лойкі з запытаннямі адносна школьных спраў, а асабліва вынікаў навучання.

ПЕРШАЕ ПЫТАННЕ: — Як маецца справа вынікаў навучання ў Беластоцкім ваяводстве пасля першага квартала?

АДКАЗ: Дакладныя справаздачы будуць прысланы загадчыкамі школ у першых днях лютага і дзеля таго не вельмі многа можна сказаць аб цэлым ваяводстве на падставе візітацыі нашых інспектараў.

З гэтым звязана досыць непрыемная справа, менавіта — рэалізацыя школьнага абавязку Грамадскімі Радамі нарадовымі. Як вам вядома, на пачатку школьнага года, не з'явілася ў школу, у першы клас каля 7.000 дзяцей. Тым больш прыкра, што, на жаль, найбольш дзяцей не з'явілася ў школу ў тых паветах, дзе пражывае беларускае насельніцтва.

І так, напрыклад, у Гайнаўскім павеце не з'явілася ў першы клас 725 вучняў. На 27 нарадовых радаў толькі 12 абмяркоўвалі гэтую справу на спецыяльных сходах. Але толькі «абмяркоўвалі». Найбольш абыякава да гэтай справы адносяцца наступныя ГРН: Дашы, Сакі, Дубічы Царкоўныя, Курашава, Ласінка і Новаберазова. Большую руплівасць праявілі рады ў Нарве, Кляшчэлях і Белавежы. Нягледзячы на гэта ані адна школа ў Гайнаўскім павеце не выконвае поўнасцю школьнага абавязку.

Тое самае можна сказаць пра Бельск, дзе 250 дзяцей не прыйшло ў школы, дзе ГРН ў Аўгустове і Парцаве не вельмі клапоцяцца аб гэтым. Толькі-ж дзяцей не прыйшло ў школу ў Беластоцкім павеце.

Віна, перадусім, бацькоў, што абыякава да гэтай справы падыходзяць, і грамадскіх радаў нарадовых, якія за гэта бацькоў не караюць.

Сёння ніхто не можа сказаць, што не мае ў што адзець сваіх дзяцей. Зусім бедным дзецям даем адзенне і абутак. Раней мы пасылалі бацькам грошы, але часта здаралася, што бацькі... прапівалі іх. Цяпер прыязджае да нас дзіця, мы ідзем з ім у краму і на свой кошт адзяваем. Так што, як бачыце, поўная адказнасць за гэтую справу ляжыць на бацьках.

ДРУГОЕ ПЫТАННЕ: — Ці палепшылася справа інспекцыі ў беларускіх школах у параўнанні з мінулым навучальным годам?

АДКАЗ: — У гэтым можна пахваліцца. Міністэрства асветы сістэматычна паклікае на пераўчобу (перш на 2, а цяпер на 1 месяц) усіх інспектараў, так ваяводскіх, як і павятовых аддзелаў асветы, якія кантралююць школы нацыянальных меншасцей. Усёроўна такі гэтых інспектараў усё яшчэ нам не замнога, а наадварот, магло-б быць больш.

ТРЭЦЯЕ ПЫТАННЕ: — Што нам далі павятовыя канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы?

АДКАЗ: — Мы можам сказаць пра гэта толькі на падставе Гайнаўскай канферэнцыі. Іншыя паветы, як напрыклад Саколка, нават не паклапаціліся нас паведаміць аб гэтым, каб мы прыслалі свайго прадстаўніка. Безумоўна, гэтыя канферэнцыі ўнеслі шмат чаго новага. У цэнтры ўвагі настаўнікаў была сетка гадзін, якая сапраўды крыўдзіць школы і, якая будзе неўзабаве зменена.

ЧАЦВЕРТАЕ ПЫТАННЕ: — Якія змены прадбачаны ў школьных установах?

АДКАЗ: — У сучасны момант вядуцца спрэчкі, ці школы маюць падлягаць даўным кураторыям, ці, як дагэтуль, радам нарадовым. Нельга сказаць, каб цяперашняя сістэма была ізноў такая дрэнная. Ёсць і такія рады нарадовыя, якія вельмі дбаюць пра школьныя справы.

Цяжка было-б цяпер падумаць аб забеспячэнні школ апалам без помачы грамадскіх рад нарадовых. У іншым выпадку трэба было-б уключыць школы ў цэнтральны дзяржаўны бюджэт.

На заканчэнне загадчык Аддзела асветы сказаў, што неўзабаве паявіцца 1.000 экземпляраў буквара, на які ўжо доўга чакаюць людзі.

Гутарку правёў

І. РЫБІНСКІ

Карэспандэнцыя з Мінска

## Кніжка — даведнік аб міцкевічаўскіх мясцінах

Імя Адама Міцкевіча—паэта, патрыёта, змагара—акружана ў Беларусі ўсенароднай пашанай. Усё, што звязана з жыццём і творчасцю геніяльнага паэта, свята зберагаецца, клапатліва захоўваецца. У сувязі з 100-годдзем з дня смерці Міцкевіча на радзіме паэта ў Новагрудку быў выдадзены альбом «Край нараджэння і маладосці паэта», у Мінску — літаратурна - мастацкі плакат і зборнік выбраных твораў у перакладзе на беларускую мову.

Нядаўна ў Мінску выйшла кніжка Льва Мірачыцкага «Сцежкамі вялікага паэта». Як сказана у прадмове да яе, мэта выдання кніжкі—быць «спадарожнікам» кожнага, хто пажадае прайсціся сцежкамі паэта, а затым яна дапаможа вярнуўшыся дамоў расказаць сваім сваякам, блізкім, знаёмым: «Вось тут мы былі.. Паглядзіце, што бачылі... Гэта сапраўды маляўнічы куток нашай Беларусі. Пастарайцеся пабываць і вы!»

У кароткай вобразнай форме, яскравымі фарбамі аўтар кнігі расказвае аб усім тым, што звязана з маленствам і маладосцю Адама Міцкевіча на Новагрудчыне. Чытаючы кнігу адразу ўяўляеш сабе хараство і чароўнасць гэтага краю, нібы мы самі крочым па сцежках вялікага паэта, па якіх ён так сумаваў на далёкай чужыне. Фотаздымкі па-майстэрску зробленыя А. Дзітлавым, і турыстычная карта, складзеная аўтарам кнігі, яшчэ больш узбагачаюць матэрыял.

Трэба адзначыць, што гэта першая кніжка — даведнік аб міцкевічаўскіх мясцінах, выдадзеная ў Беларусі. Што-ж, добры пачатак.

У сучасны момант, аўтар гэтай кніжкі працуе над новым творам «Міцкевіч у Беларусі», дзе падрабязна спыніцца на сувязях вялікага польскага паэта з беларускай культурай, з беларускім краем.

А. СТАХНО.




*На здымку: вокладка кніжкі. На ёй — помнік-абеліск Адаму Міцкевічу ў Завоссі.*

---

ласкава і сказаў, што сёння-ж прыедзе на разборку справы майго бацькі з тваім. Ой, наварылі бацькі сабе кашы, будзе што есці. Ён вельмі сярдзіты, бо адзін вус калом угару стаў. Будзе вазня!

Марыся. Дай Бог, каб гэта каша нам зубоў не папрышчыпала!

Грышка. Ён дакляраваў зрабіць нам вяселле. На Богу ды на ім — уся наша надзея.

№ 2

ДУЭТ

Паклаўшы надзеі на Бога,
Чаго-ж гараваці?
Прысяглі любіці да гроба, —
Дык будзем-жа ждаці.
Хоча няшчасная доля
На век разлучыці,
А Бог скажа: мая воля
Ім з сабою жыці!
Не памогуць злыя языкі,
Ні бацькоў старожа;
Ён-жа такі пан вялікі,
Што хоча, то зможа!

З'ЯВА III

МАРЫСЯ — ГРЫШКА — ЦІХОН ПРАТАСАВІЦКІ — КУЛІНА

Ціхон. Хрэн табе ў вочы, — жонка, а, жонка! Хадзі ды паўзірайся, як дачка твая з Грышкам Цюхайчыкам галубіцца.

Куліна *(За сцэнай)*. Хто? Дачка? Бойся Бога, ды яна-ж яшчэ малая! *(Уваходзіць)*.

Ціхон. Які чорт малая! Хрэн табе ў вочы, — хадзі палюбуйся!

Марыся. Якая-ж я малая, калі мне на Спаса скончыцца семнаццаць год?!

Куліна. Маўчы ты, хітрая лісіца! Бачыш ты, як яна скора палічыла гады!

Ціхон. Ах, ты, чортаў сыну, — хрэн табе ў вочы! Не годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы не шляхціцам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.

Грышка. Ды я-ж яе люблю і хачу з ёю жаніцца...

Ціхон. Ось я цябе так пажаню, як твайго бацьку! Жонка, а, жонка! Дай мятлу, — хрэн табе ў вочы!

Грышка. Што хочаце, тое рабіце, а ўсё-такі Марыся будзе мая! *(Да Марысі)*. Бывай здарова! *(Выходзячы, спатыкаецца з Куторгай і збівае таго з ног. Марыся ўцякае ў хату)*.

З'ЯВА IV

ЦІХОН — КУЛІНА — КУТОРГА

Куторга. Ах, ты, паганец! *(Устаючы.)* Татарын ты няхрышчоны! Вот збіў мяне, як шведаў Хадкевіч пад Кіргольмам. Пачакай-жа, я-ж табе не дарую гэтай штукі, — не цяпер, то ў чацвер. *(Вітаецца)*. Дзень добры, пане Пратасавіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая! *(Цалуе яе ў руку)*. Відна, відна, — дзякуй Богу! Здаровы, як рыжкі баровы... А я к вам з вялікаю навінаю. Не ведаеце? Толькі што пан асэсар прыехаў, а такі сярдзіты, — не дапускай, Госпад! Як ліхі татарын! Як толькі ўехаў у аколіцу ды стаў каля Бэркі, дык зараз і закрычаў: дзесяцкіх, соцкіх! Сабраць усю шляхту да Ціхона Пратасавіцкага, ды каб Іван Цюхай-Ліпскі прыйшоў з сынам туды-ж.

Ціхон. Хрэн яму ў вочы, — будзе бяда, будзе! Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ, як ліпку!

Куторга. Вот дзіва — на тое ён-жа і асэсар! Заўваж толькі — у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыпавесць: чырвона-белае ўсё перадзелае.

№ 3

Дзе ўнадзіцца юрыста,
Вымяце хату дачыста.
Такіх дзіваў нагаворыць,
Так многа кручкоў натворыць,
Што, пачасаўшы затылак,
Не рассупоніш памылак.
Не дасі — цябе замучыць.
Добра стара казка вучыць:
Дзярэ каза ў лесе лозу,
Воўк дзярэ ў лесе козу,
А ваўка — мужык Іван,
А Івана — ясны пан;
Пана ўжо дзярэ юрыста,
А юрыста — д'яблаў трыста!

Ціхон. Хрэн табе ў вочы! Добра табе прастарэкваць, калі няма на шыі бяды. Ось скажы лепш, што рабіць? Пане Куторга, ты-ж такі пісьменны чалавек — паможаш падаць разумную раду.

Куторга. А прымеце-ж чэсна маіх сватоў да вашай Марысі?

Куліна. Бойся Бога, пане Куторга, — яна-ж яшчэ маладзенькая! Гэта-ж дзіця горкае.

Ціхон. Які чорт дзіця, калі з хлопцамі цалуецца!

Куторга. Дык чаго-ж чакаць! Гэта, кажуць, кепскі тавар: мый да чашы, потым спяшы, — заплаці каму, каб вывез з даму.

Ціхон. Добра, пане Куторга, бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды.

Куторга. Як чорта з балота.

Куліна. Парадзь, пане Куторга, ты-ж такі чалавек бывалы і па судох цягаўся.

*(Працяг будзе)*

